# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 6 (937) ГОД XIX БЕЛАСТОК 10 ЛЮТАГА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


## ШТО КОРНІ ДУБА

Любоў і дружба шчасце
росцяць...
Жывём шматмоўнаю сям'ёй,
Як з братам брат, сястра
з сястрой.
Мы разам сеем, разам косім,
Выходзім друг за друга ў бой.
Што корні дуба, нашы лёсы
Перапляліся між сабой.

**Андрэй Александровіч**



*Меляшкоўскія кудзельніцы.*

*Фота Я. Цялушэцкага*

## ТРАГЕДЫЯ "ПАРТЫЗАНСКАЙ МАМЫ"



Называлі яе „партызанскай мамай“. Было гэта 30 гадоў таму назад. Жыла яна тады на ўскраіне вёскі Шэшылы пад Боцькамі ў Бельскім павеце.

Адзін з партызанскіх камандзіраў, які цяпер жыве ў Беластоку і з'яўляецца палкоўнікам, так піша пра яе ў сваіх успамінах:

*„Дайшлі мы да вёскі Шэшылы ў гміне Боцькі. У канцы вёскі жыла старэнькая бабуля Соня Тарлецкая з двума сынамі. Калі мы ноччу пастукалі ў яе вакно, выглянула праз шыбу і ўпусціла нас у хату. Пакуль запаліла святло, сыны завесілі вокны нейкім палатном. Потым яна і сыны прыглядаліся да нас уважна. На іх тварах малявалася расчараванне. Відаць, у хату ўвайшлі не тыя, якіх тут чакалі. Але гаварыла з намі ахвотна, без праяў страху, з чым сустракаліся мы ўсюды. Усё паказвала на тое, што гэта сям'я была прывучана да такіх начных візітаў. Дазволіла нам памыцца, накарміла нас бульбай...“*

Нават у роднай вёсцы аўтар гэтых успамінаў і яго сябры-партызаны не сустрэліся з такім сардэчным прыёмам, не знайшлі такой падтрымкі, як у Шэшылах, у Соні Тарлецкай. За дапамогу партызанам тады ніякага памілавання ў гітлераўцаў не было. Кожны селянін — малы ці стары — пад пагрозай расстрэлу абавязаны быў дакладваць немцам, што ў вёсцы паявіліся нейкія чужыя людзі. Таму небяспечна было заводзіць знаёмствы з невядомымі асобамі.

Цяперашні палкоўнік са сваімі сябрамі-партызанамі яшчэ два дні блукаўся па навакольных вёсках. Галодныя і змучаныя, не знаходзячы нідзе дапамогі, зноў вярнуліся ў вёску Шэшылы.

„...*Праз два дні,* — чытаем ва ўспамінах палкоўніка, — *Тарлецкая прыняла нас як старых знаёмых. Штосьці ў ёй змянілася. Звязала нас з даверaным чалавекам з Шымак, з Юльянам Хількевічам. Ён дапамог нам выбраць месца на зямлянку. Было яно між вёскай Шэшылы і маёнткам Калейтычы*“...

Такой Соня Тарлецкая асталася ва ўс-

Працяг на стар.4

## АСНОЎНАЯ МЭТА—ПАЛЯПШЭННЕ ЎМОЎ ЖЫЦЦЯ

У другой палавіне студзеня Ваяводская рада нарадовая ў Беластоку прыняла пастанову аб плане і бюджэце на 1974 год. У спрэчках выступіла 13 радных ВРН.

Сесія ВРН адбылася ў незвычайных умовах. Звярнуў на гэта ўвагу старшыня Ваяводскай рады нарадовай, І сакратар ВК ПАРП, Здзіслаў Куроўскі, які сцвердзіў, што прынятая Сеймам 19 студзеня гэтага года **праграма паляпшэння матэрыяльных умоў людзей працы сустрэлася з агульным адабрэннем грамадскасці Беласточчыны.** Жыхары нашага ваяводства хочуць таксама хутчэйшага развіцця эканомікі рэгіёна, паколькі толькі гэта можа запэўніць пастаяннае паляпшэнне ўмоў жыцця. „**І мы маем магчымасці на тое,** — сказаў т. Куроўскі, — **каб захаваць вышэйшыя, чым сярэднія ў краіне, тэмпы эканамічнага развіцця. Надалей ёсць у нас шэраг нявыкарыстаных рэзерваў, на што паказалі актывісты ПАРП у час кансультацый перад XII Пленумам Цэнтральнага Камітэта.** Хочам, каб у 1974 годзе ў эканамічнай дзейнасці садзейнічаў нам лозунг — раўненне на найлепшых у краіне“.

Асноўная задача грамадска-эканамічнага плана ваяводства на 1974 год — гэта ўмацаванне дасягнутых ў апошнія два гады высокіх тэмпаў развіцця эканомікі ваяводства, а таксама далейшае павышэнне эфектыўнасці гаспадаркі.

Даходы насельніцтва ў 1974 годзе павінны павялічыцца на 11,4 прац. у параўнанні з 1973 годам. Павелічэнне даходаў будзе звязана з павышэннем зарплаты, з павелічэннем бюджэту на сацыяльныя мэты і з павелічэннем даходаў вясковага насельніцтва ад продажу сельскагаспадарчых прадуктаў. У сувязі з гэтым на парадку дня стане праблема павелічэння т. зв. рынкавай прадукцыі і паслуг для насельніцтва. Важна, каб даць дадатковую прадукцыю атракцыйных і новых або мадэрнізаваных тавараў. Рознічны продаж мае павялічыцца на 10 прац. у параўнанні з мінулым годам. Служыць гэтаму будзе павелічэнне

Працяг на стар.4

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"



## ПАЧАТАК ВЯЛІКАЙ СПРАВЫ

Мінула ўжо паўгода ад часу, калі значная частка вясковых дзяцей пачала хадзіць у зборныя гмінныя школы.

Няма ніякіх сумненняў у тым, што толькі вялікія школы, з поўным камплектам вучняў, з настаўнікамі-спецыялістамі па сваіх прадметах, з добрымі спецыялістычнымі кабінетамі могуць даць вясковым дзецям такую адукацыю, каб яны не горш былі падрыхтаваны да далейшай навукі і да жыцця, чым гарадскія.

1973 год быў першым годам увядзення рэформы ў асвеце. І ўжо ў тым жа годзе пачало працу 40 гмінных школ (30% запланаваных). Некаторыя паветы (Элк, Лапы) змаглі адкрыць адразу поўную сетку гмінных школ.

Адмоўным бокам гэтай рэформы з'яўляецца факт, што школа, пераведзеная ў цэнтр гміны, значна адсунулася ад вучня. На 187 тысяч вучняў падста-

Працяг на стар.4



*У падставовую школу ў Белавежы дзеці прыязджаюць з пушчанскіх вёсак машынамі надлясніцтва.*

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

##  СВЕТ

### ВІЗІТ НА КУБУ

Візіт Л. Брэжнева на Кубу яшчэ больш умацуе вузы дружбы, выпрабаванай у складанай палітычнай абстаноўцы нашага часу, ён з'яўляецца падзеяй гістарычнага значэння. Гэты візіт адбываўся ў момант, калі Куба ахоплена ўсенародным уздымам, калі ўвесь народ напружыў сілы для выканання важных задач, пастаўленых Рэвалюцыйным урадам.

Югаслаўская газета „Палітыка", паведамляючы аб пачатку савецка-кубінскіх перагавораў, пісала: „Зусім відавочна, што савецка-кубінскія адносіны цяпер моцныя, як ніколі раней. Значны ўздым у эканамічным развіцці Кубы, агульнае павелічэнне вытворчасці, асабліва за апошнія два гады, даюць магчымасць Кубе эфектыўна выкарыстоўваць шырокую савецкую дапамогу".

### ПЕРШЫ ЭТАП ЗАВЕРШАН

Вывадам ізраільскіх часцей з раёна Суэц-Адабія закончылася выкананне першага этапа пагаднення аб раз'яднанні егіпецкіх і ізраільскіх войск, падпісанага паміж дзвюма краінамі.

Эвакуацыя ізраільцян з заходняга берага Суэцкага канала павінна поўнасцю завяршыцца 21 лютага. Затым пачнецца адвод войск у глыбіню Сінайскага паўвострава, які павінен быць закончаны 5 сакавіка гэтага года.

### ЗАЯВА К. ВАЛЬДХАЙМА

Генеральны сакратар ААН К. Вальдхайм заявіў, што становішча на поўдні Афрыкі, дзе працягваюць панаваць каланізатарскія і расісцкія рэжымы, з'яўляецца сур'ёзнай пагрозай для міру на афрыканскім кантыненце і падрывае міжнародную бяспеку.

Выступаючы ў сувязі з аднаўленнем работы Камітэта ААН па дэкаланізацыі, Генеральны сакратар ААН сказаў, што задача Арганізацыі Аб'яднаных Нацый заключаецца ў тым, каб усе народы свету, якія знаходзяцца пад каланіяльным ярмом, набылі сваю свабоду і незалежнасць.

### ПАЛІТЫЧНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ

У Брусэлі адбылася канферэнцыя камуністычных і рабочых партый капіталістычных краін Заходняй Еўропы. Канферэнцыя прыняла палітычную дэкларацыю, у якой знайшлі адлюстраванне многія міжнародныя пытанні.

У Еўропе, падкрэсліваецца ў дэкларацыі, дасягнуты значны прагрэс на шляху разрадкі і мірнага суіснавання паміж дзяржавамі з розным грамадскім ладам. Цяпер існуюць рэальныя магчымасці ажыццявіць рашаючы паварот да разрадкі і міру, стварыць сістэму калектыўнай бяспекі і супрацоўніцтва.

Канферэнцыя заклікала садзейнічаць хутчэйшаму паспяховаму завяршэнню на самым высокім узроўні Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

Капіталістычныя краіны Еўропы, адзначаецца ў дэкларацыі, перажываюць глыбокі крызіс, які сведчыць аб няздольнасці капіталізму вырашаць праблемы, якія стаяць перад грамадствам. Узмацняецца эксплуатацыя рабочага класа і ўсіх працоўных, пагаршаюцца ўмовы іх жыцця і працы, ушчамляюцца дэмакратычныя правы і свабоды. (ак)

##  БССР

### КАЛГАСНАЕ ЖЫЦЦЁ

Як жывуць у калгасе? Гэтае пытанне цікавіць і хвалюе многіх нашых чытачоў. На яго адказвае Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса „Савецкая Беларусь" Камянецкага раёна ў Брэсцкай вобласці.

„У беззваротнае мінулае, — сцвярджае ён, — адышла цяжкая ручная праца. У 8 гадзін раніцы — выспаўшыся, прыгатаваўшы снеданне, сабраўшы дзяцей у школу, — ідзе наша даярка на работу. Праз тры гадзіны вяртаецца дамоў, спраўляе хатнія справы, а вечарам адпраўляецца на ферму, зноў гадзіны на тры...

...Сёння мы пытанне ставім так: механізатар павінен хадзіць на работу і вяртацца з яе ў чыстай, непрамасленай кашулі...

...Толькі ў мінулым годзе прадалі мы дзяржаве больш 3 тысяч тон малака, амаль 70 тон мяса, да васьмі тысяч тон цукровых буракоў. Надоі ў сярэднім па калгасу складаюць 3.700 літраў малака на кожную карову...

...Растуць грашовыя даходы калгаса. Яны складаюць цяпер 3 мільёны рублёў. Адпаведна вырасла і зарплата калгаснікаў. Зарабляюць жывёлаводы і механізатары ў нас па 180—220 рублёў у месяц.

...Ужо больш за 5 год прайшло з таго часу, як мы пабудавалі ў вёсцы калгасны палац культуры з цудоўнай залай на 320 месц. Тут штогод выступаюць па 25—30 прафесійных калектываў з Масквы, Ленінграда, Кіева, Мінска, Брэста і іншых гарадоў краіны...

...Наспела неабходнасць і ў сучасным гандлёвым цэнтры для вёскі. Да вясны думаем яго закончыць. Магазіны, атэлье, цырульня, рэстаран, кафэ ў гэтым цэнтры афармляюць лепшыя мастакі з Мінска..."

Столькі старшыня. Ад сябе дадамо, што калгас „Савецкая Беларусь" знаходзіцца непадалёк ад дзяржаўнай мяжы з ПНР і быў заснаваны ўжо пасля II сусветнай вайны. Яго дасягненні сведчаць аб вялікіх пераўтварэннях, якія здзейсніліся ў беларускіх вёсках у пасляваенны перыяд.

### ПЕРШАЕ 25-ГОДДЗЕ САЛІГОРСКА

25 гадоў таму назад у пустым полі, непадалёк ад невялікай вёскі Чыжэвічы геолагі адкрылі буйнае месцанараджэнне калійнай солі. Гэтае багацце стала асновай будучага горада. У канцы 1963 года ўвайшоў у строй першы калійны камбінат, разлічаны на выпуск 2 мільёнаў 400 тысяч тон калійных угнаенняў. Цяпер у Салігорску 53 тысячы жыхароў. Сярэдні ўзрост іх 27 гадоў. Значыць, Салігорск — горад маладых. І таму ўтрымоўваецца тут непараўнальна высокая нараджальнасць — 20 чалавек на кожную 1000 насельніцтва. За 6 гадоў у Салігорску жыць будзе ўжо 80 тысяч чалавек.

### СТАДЫЁН ПАД ДАХАМ

У цэнтры Слоніма ўступіў у строй новы спартыўны комплекс. У трох яго залах плошчай каля 100 квадратных метраў трэніруюцца лёгкаатлеты, барцы, гандбалісты, штангісты і футбалісты. Комплекс перададзены спартыўнаму аб'яднанню „Спартак". (вр)

##  ПОЛЬШЧА

### ЗА СМЯЛЕЙШЫЯ ПЛАНЫ

Адбыўся пленум Варшаўскага камітэта ПАРП. Тэмай яго былі галоўныя праблемы працы партыі, звязаныя з грамадска-гаспадарчым развіццём сталіцы. На пленуме выступіў I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

На апошнім пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП, як першая, стаяла справа далейшага развіцця жывёлагадоўлі. Палітбюро намеціла праграму далейшага развіцця жывёлагадоўлі аж да 1980 года.

### I САКРАТАР НА ЛОДЗІНСКАЙ ЗЯМЛІ

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк пабываў на Лодзінскай зямлі. Ён наведаў ПГР-ы, гаспадарку перадавога селяніна Мечыслава Кучынскага, а таксама выстаўку народнай рэгіянальнай творчасці ў Ловічы.

### НАВУКА КРАІНЕ

У Бельведары — сядзібе Рады Дзяржавы ў Варшаве адбылося ўрачыстае ўручэнне звання прафесара 57 асобам. Уручаў старшыня Рады Дзяржавы праф. Г. Яблонскі. 11 асоб атрымала званне звычайнага прафесара, а 46 асоб — надзвычайнага прафесара.

### ЗАДАЧЫ ТППР

Прэзідыум Галоўнага праўлення ТППР сустрэўся з цэнтральным і ваяводскім актывам сваёй арганізацыі перад яе IX краёвым з'ездам. Член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП і старшыня ГП ТППР Ян Шыдляк у сваім выступленні падкрэсліў, што асноўная задача арганізацыі ў XXX-годдзе ПНР — паказаць дасягненні сацыялістычнага будаўніцтва і значэнне братэрскай дапамогі СССР у развіцці нашай краіны.

### ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ ДЗІЦЯЦІ

Ужо 220 мільёнаў злотых і 700 тысяч долараў знаходзіцца на конце будовы помніка-шпіталя Цэнтра здароўя дзіцяці. Акрамя гэтых сум у грошах, ёсць і рэчавыя абавязацельствы на суму 70 мільёнаў злотых і 100 тысяч долараў. Заканчэнне будовы наступіць у 1978 годзе. Кошт будовы і асноўнага абсталявання складзе 500 мільёнаў злотых.

### ПОЛЬШЧА — ФІНЛЯНДЫЯ

Урады абедзвюх краін падпісалі дагавор аб дзесяцігадовым гаспадарчым супрацоўніцтве. Асабліва ўзрасце гандлёвы абмен паміж абедзвюма краінамі.

У Хельсінкі была падпісана ўмова паміж урадам ПНР і Рэспублікай Фінляндыі аб двухбаковай адмене віз ад 2.III. 1974 года.

### НАВУЧАННЕ НАСТАЎНІКАЎ

У новым школьным годзе ўвосень 1974 у вышэйшых школах на завочных аддзяленнях да навукі прыступяць 18 тысяч настаўнікаў.

### ГАРЦЭРСКІ ФЕСТЫВАЛЬ

У ліпені і жніўні г.г. у Кельцах адбудзецца найбольшае гарцэрскае мерапрыемства года — культурны фестываль школьнай моладзі. (вл)

##  ВАЯВОДСТВА

### УЗНАГАРОДЫ ЗА ДАЖЫНКІ

30 студзеня ў рэстаўрыраваным старым палацыку ў Жултках адбылася ўрачыстая сустрэча людзей, якія найбольш працавалі пры падрыхтоўцы Беласточчыны да мінулагодніх Цэнтральных дажынак. З прывітальным словам выступіў да гасцей беластоцкі ваявода З. Спрыха. Ён сардэчна падзякаваў за вялікі ўклад працы ў развіццё Беласточчыны і падкрэсліў, што дажынкі былі не толькі падсумаваннем добрай працы сялян, але і стымулам да новых дасягненняў. Галоўнае заданне сённяшняга дня, як сказаў ваявода, — гэта ўтрыманне існуючай дынамікі і тэмпаў узросту сельскагаспадарчай прадукцыі.

I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, беластоцкі ваявода З. Спрыха і прэзас ВК ЗСЛ Е. Гжыбчак уручылі заслужаным людзям Беласточчыны высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

### ДЗЕНЬ ГАНДЛЁЎЦА

Напярэдадні Дня гандлёўца ў Беластоку адбылася нарада гаспадарчага актыву, прысвечаная галоўным задачам гандлю, дробнай вытворчасці і паслугам. У нарадзе ўдзельнічалі віцэ-міністр унутранага гандлю і паслуг Т. Міцяк і віцэ-прэзас Цэнтральнай рады спулдзельчасці „Самапомач хлопска" Ул. Чэрвік. Вёў нараду беластоцкі ваявода З. Спрыха. З дакладам аб выкананні мінулагодніх заданняў гандлю і задачах на бліжэйшы час выступіў віцэ-ваявода З. Світай. Ён прачытаў таксама ліст міністра ўнутранага гандлю і паслуг з падзякай для беластоцкіх гандлёўцаў за добрую працу. У дыскусіі закраналіся справы лепшага забеспячэння рынку таварамі, мадэрнізацыі гандлёвых і гастранамічных пляцовак і інш.

Ваяводская ўрачыстасць у сувязі з Днём гандлёўца адбылася 2 лютага ў клубе „Гермес". Шэраг працаўнікоў гандлю атрымала дзяржаўныя ўзнагароды.

### У АДКАЗ НА ЗАКЛІК

Нядаўна наша прэса паведаміла аб тым, што калектыў Чыгуначнага прадпрыемства стальных канструкцый (КЗКС) у Старасельцах абавязаўся ў гэтым годзе даць дадатковую прадукцыю на суму 3 мільёны злотых. Чыгуначнікі выступілі таксама з заклікам да ўсіх рабочых калектываў Беласточчыны праявіць падобную ініцыятыву. Першым на заклік адгукнулася Сямяціцкае прадпрыемства скуранай прамысловасці. Калектыў гэтага прадпрыемства абавязаўся даць дадаткова рознага роду абутку на суму 2 мільёны злотых. Такое ж абавязацельства ўзялі на сябе рабочыя Голдапскага прадпрыемства металёвых вырабаў.

### НА АНТЭНУ ТЭЛЕБАЧАННЯ

Нядаўна ў зале Дома прафсаюзаў адбыўся незвычайны канцэрт Беластоцкага сімфанічнага аркестра. Дырыжор Т. Хахай кіраваў калектывам ў моцным асвятленні лямп, пад ціхі шэпт тэлевізійных камер, а ў кутку гледачы бачылі на каляровым маніторы тэлевізійны вобраз нашага аркестра. Такім чынам запісваўся на тэлестужку канцэрт нашага аркестра, які будзе ўдзельнічаць у конкурсе дзяржаўных сімфанічных аркестраў, арганізаваным Польскім радыё і тэлебачаннем у гонар 30-годдзя ПНР.




**Niedziela — 10. II.**

6.40 TV Technikum Rolnicze — lekcja 1 — Chemia. 7.10 TV Technikum Rolnicze — Język polski — lekcja 2. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.25 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.40 Bieg po zdrowie. 8.55 Program dnia. 9.00 „Teleranek". 10.20 PKF. 10.30 Antena. 10.45 „Na wyspie Bali" — film dok. franc. („Czas i ludzie"). 11.50 Dziennik. 12.05 TV Koncert życzeń. 12.40 Program wiejski. 13.10 Piórkiem i węglem. 13.40 Dla dzieci: „Co to jest?" — konkurs-zabawa. 14.20 „Hollywood — fabryka snów" („W starym kinie"). 15.20 Wielka gra — teleturniej. 16.10 Losowanie Toto-Lotka. 16.25 Estrada poetycka: K. I. Gałczyński „Wit Stwosz" — fragmenty („Poezja Polska"). 16.40 Studio przebojów — program TV NRD. 17.25 „Postaw się, nie zastaw się". 18.10 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Czarne chmury" — film TVP — odc. VIII. 21.10 „Uśmiech i piosenka hiszpańska czyli Romance o miłości i zdradzie". 21.55 Informacyjny Magazyn Sportowy. 22.40 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek — 11.II.**

12.45 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 24. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 38. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 Echo stadionu. 17.55 TV Kurier Białostocki. 18.10 Oferty. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: H. Wouk „Bunt na U.S.S Caine". 22.00 Program publicystyczny. 22.30 Dziennik. 22.45 „Tango — jak nowe".

**Wtorek — 12.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 24. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 38. 10.10 „Luke" — film ameryk. („Strzały w Dodge City"). 13.45 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 2. 14.30 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 1. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Ptaki mówią po polsku". 17.05 Sylwetki X Muzy — Ignacy Gogolewski. 17.35 Dla młodzieży: Spotkanie z Ernestem Bryllem. 18.00 Dla młodzieży: „Zycie niebanalne". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Poligon. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Luke" — film ameryk. („Strzały w Dodge City"). 21.05 Interstudio. 21.35 Wiadomości sportowe. 21.40 Artyści, których podziwiamy — Elżbieta Stefańska-Łukowicz. 22.20 Dziennik.

**Środa — 13.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 2. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 18. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka „Śladami Archimedesa". 9.30 Filmoteka Arcydzieł: „Romans pajaca" — film fab. franc. — cz. II. („Komedianci"). 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne. „Architektura wnętrz". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia. „O jaką Polskę...". 12.45 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — lekcja 17. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 18. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. — cz. I (Gdańsk). 15.55 NURT — Pedagogika. „Kształcenie ustawiczne". 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Skrzydła". 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 Informacje — Towary — Propozycje. 17.35 „Tkanina artystyczna" — rep. film. 18.05 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.25 „Strach" — film czechosł. („Łuk tęczy"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Filmoteka Arcydzieł: „Romans pajaca" — film fab. franc. — cz .II. („Komedianci"). 21.35 Program sportowy. 22.20 Dziennik.

**Czwartek — 14.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — lekcja 17. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 18. 9.10 „Opowieść" — film fab. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Historia. „Za honor i Ojczyznę". 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Język polski. A. Fredro „Zemsta". 11.35 „Strach" — film czechosł. („Łuk tęczy"). 13.15 TV Kurs Informatyki: „Sieć ośrodków obliczeniowych w Polsce". 13.45 TV Technikum Rolnicze — Zoologia — lekcja 1. 14.30 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 1. 15.05 Matematyka dla nauczycieli: „Własności iloczynu" I. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 Gramy o telewizor — teleturniej. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Mister eksportu wyrusza w świat" — rep. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.15 Teatr Kobra: A. W. Pastuszek „Żegnam pana, mr. Kowalsky". 21.10 Wiadomości sportowe. 21.15 „Przy wspólnym stole" — program public. 22.00 Dziennik.

**Piątek — 15.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Zoologia — lekcja 1. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 1. 10.00 „Czarne chmury" — film TVP — odc. VIII. 11.05 Dla szkół: (kl. II) „Wizyta u mistrza". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysposobienie obronne. „Zabezpieczenie przed bronią masowego rażenia". 12.45 TV Technikum Rolnicze — Język polski — lekcja 30. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Chemia — lekcja 31. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.45 Program dnia. 15.50 NURT — Filozofia. „Zasadniczy problem filozofii". 16.20 Program I proponuje. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.20 Turystyka i wypoczynek. 17.45 Dla młodzieży: Tygodnik Informacyjny Młodych. 18.05 Dla młodzieży: „Dwie szkoły" — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Ludzie i zwierzęta". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Louisa Jane White i jej piosenki. 20.40 Panorama. 21.20 Wiadomości sportowe. 21.25 Teatr TV na świecie: V. Alfieri „Agamemnon" — cz. II — spektakl TV Włoskiej. 22.30 Informacje — Towary — Propozycje. 22.45 Dziennik.

**Sobota — 16.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Język polski — lekcja 30. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Chemia — lekcja 31. 8.45 „Samotny jeździec" — film fab. ameryk. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Geografia. „Krajobrazy alpejskie". 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku. „Skóra". 11.35 „Johann — syn" — film ang. — odc. III („Rodzina Straussów"). 12.40 Program dnia. 12.45 Redakcja Szkolna zapowiada. 13.00 Transmisja narciarskich mistrzostw świata w konkurencjach klasycznych (skoki narciarskie) (Falum). 15.00 TV Technikum Rolnicze — Chemia — lekcja 2. TV Technikum Rolnicze — Zoologia — lekcja 1. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: „Rytm" („Dźwięki i czary"). i „Mały pingwinek" — program TV Radzieckiej. 17.05 Nie tylko dla pań. 17.30 „Johann — syn" — film ang. — odc. III („Rodzina Straussów"). 18.25 Godzina Orfeusza. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Samotny jeździec" — film fab. ameryk. 21.25 Dziennik. 21.45 Wiadomości sportowe. 22.15 „Bonjour Adamo" — program TV NRD.




**Piątek, 8 lutego.**

8.00 Film fab. 14.35 Program dnia. 16.15 Program dla dzieci. 17.05 Spektakl. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. Po koncercie program sportowy.

**Sobota, 9 lutego**

9.00 Spotkanie z kompozytorami i wykonawcami białoruskimi. 10.20 Gra Igor Ojstrach. 12.00 Hokej (CSKA — „Chemik" Woskresiensk). 14.15 Film fab. 15.30 Filmy animowane dla dzieci. 16.00 Nowiny. 17.15 Film dokument. 17.45 Film fab. 19.00 Czas.

**Niedziela, 10 lutego**

10.00 Program muzyczny. 10.30 Film fab. 13.35 Program sportowy dla szkół. 15.05 Filmy animowane dla dzieci. 16.00 Nowiny. 17.10 Opera M. Musorgskiego „Borys Godunow". 19.00 Czas. 19.30 Ciąg dalszy opery.

Беларуская літаратура — Аляксанар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЦЁТКА — Частка II**

Палітычная актыўнасць Цёткі паглыбляецца ў перыяд першай рускай рэвалюцыі. Цётка дзейнічае на тэрыторыі Беларусі. Час ад часу прымае ўдзел у палітычных актах агульнадзяржаўнага значэння. Даследчык жыцця і дзейнасці Цёткі Бібіла піша, што ў 1905 годзе Цётка як прадстаўнік беларускіх жанчын удзельнічала ў з'ездзе жанчын у Маскве. У Маскву паехала яна нелегальна, без пашпарту. Выратавала Цётку полька Тодзіс, якая ехала на гэты з'езд і ў яе пашпарт была ўпісана дачка Зося. Цётка паехала ў Маскву як Зося Тодзіс. Пасля гэтага факту знаёмыя часта называлі Цётку Зосяй Тодзіс. Другой, менш прыемнай мянушкай Цёткі была „холера". Слова гэтае Цётка паўтарала вельмі часта і гэта было прычынай мянушкі.

Цётка была актыўным удзельнікам II з'езду Беларускай сацыялістычнай грамады, які ў 1906 годзе прыняў новую праграму. Пісьменніца адыграла таксама вялікую ролю ў стварэнні органа Беларускай сацыялістычнай грамады — першага беларускага тыднёвіка „Наша доля". Радыкалізм „Нашай долі" быў, між іншым, вынікам і радыкалізму Цёткі, якая рыхтавала да друку „Нашу долю". Як вядома, амаль усе сем нумараў „Нашай долі" былі канфіскаваны. Выдаўцам, у тым ліку і Цётцы, пагражалі судовыя расправы. У такой сітуацыі Цётка рашаецца выехаць у эміграцыю. Удаецца ёй пакінуць межы Расійскай імперыі і выехаць на Украіну і ў тую частку Польшчы, якая знаходзілася ў межах Аўстра-Венгерскай Імперыі. Ад 1906 да 1907 года прабывала Цётка ў Львове. Была яна студэнткай Львоўскага універсітэта. Намервалася пісаць навуковую дысертацыю, прысвечаную беларускаму народнаму тэатру. У Львове Цётка слухала лекцыі вядомага прафесара Трушэўскага. Тэорыі гэтага гісторыка аб тым, што Кіеўская Русь была ўкраінскай дзяржавай, а таксама іншыя яго памылковыя погляды крытыкаваліся ў лістах Цёткі.

Варта аднак падкрэсліць і тое, што добра арганізаваны ўкраінскі рух у Львове выклікаў адабрэнне з боку Цёткі. Увайшла яна ў кантакт з некаторымі ўкраінскімі дзеячамі і дамовілася з імі адносна іх дапамогі ў друку беларускіх публікацый. Момант гэты адлюстраваны між іншым, у лісце, які накіравала Цётка вядомаму беларусу з Пецярбурга прафесару Эпімах-Шыпілу. Вось фрагмент гэтага ліста:

„Вотаж цяпер жыву я ў Львові, з украінцамі-русінамі і уніятамі заводжу знакомства. Шмат нам спрыяюць, памагаюць у чом сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце". (Ю. Бібіла, Матарыялы да біяграфіі Цёткі. Запіскі аддзела гуманітарных навук. Мінск 1928, Т. I, ч. II, с. 296).

Дзякуючы дапамозе ўкраінскіх сяброў былі апублікаваны зборнікі Цёткі „Хрэст на свабоду" і „Скрыпка беларуская".

У сэнсе творчых удач прабыванне Цёткі ў Львове было шчаслівым. Аднак у жыцці чалавека шчасце вельмі часта ходзіць поплеч з няшчасцем. Гэтак было і з Цёткай. У перыяд прабывання ў Львове захварэла Цётка страшэннай у тыя гады хваробай — сухотамі.

Шукаючы ратунку, Цётка пакінула ў 1908 годзе Львоў і паехала ў Закапанэ і Кракаў. У Закапаным жыла Цётка ў Доме здароўя, а таксама прыватна ў нейкай пані Шчэнснай-Лехмановай.

І тут мне хацелася б аддацца хвіліне рэфлексій. Некалькі гадоў таму назад адна са студэнтак кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта лячылася на туберкулёз у тым жа Закапаным. Пераглядаючы бібліятэку санаторыя, знайшла зборнічак паэзіі Цёткі. Прывезла яго ў Варшаву, пасля адвезла назад. Здаецца, не можа быць сумненняў у тым, што зборнік вершаў у бібліятэцы санаторыя пакінула Цётка. Пяцьдзесят гадоў пазней знайшла яго другая беларуска, таксама, як і Цётка, студэнтка. На шчасце, другую студэнтку сучасная медыцына вылечыла.



## 25 год гарадоцкай бібліятэкі

У гэтым годзе бібліятэка ў Гарадку Беластоцкага павету будзе святкаваць свой юбілей — 25-годдзе дзейнасці. Мае яна багаты кнігазбор (у тым ліку значную колькасць кніжак на беларускай мове), шырокі выбар прэсы. Чытачы могуць узяць сабе да чытання любую кніжку проста з паліцы.

Варта пры нагодзе напомніць аб тым, што першай бібліятэкаршай у Гарадку была Ніна Мушынская, а цяпер ужо многа гадоў кіруе ёй Тамара Бурачэўская.

На здымку: ля бібліятэчных паліц з кніжкамі адна з найлепшых чытачак Элеанора Мелец з Гарадка. Працуе яна на мясцовым тэкстыльным прадпрыемстве „Каро".

Тэкст і фота **Ц. Я.**

## У СНІЧАНАХ НЕ СПЯЦЬ, АЛЕ...

Клуб у Снічанах займае вялікі пакой у сялянскай хаце. Утульна, цёпла, чыста. Раз у раз паскрыпваюць дзверы — месцы пры століках запаўняюцца хлопцамі, дзяўчатамі, дарослымі мужчынамі, нават дзве звышсямідзесяцігадовыя бабулькі таксама прыйшлі і прыхінуліся да цёплай печы.

Кіраўнік клуба Ірэна Ярмошка прапануе наведвальнікам газеты і часопісы, парыць каву, завіхаецца за прылаўкам, заахвочвае да дыскусіі з прыезджымі, гэта значыць — з намі. Але гэта лішне. Моладзь і старэйшыя тут за словам у кішэнь не лезуць. Ужо са звычайнай размовы пра тутэйшае жыццё-быццё даведваюся, што ў Снічанах дзейнічае актыўны гурток Саюза сацыялістычнай сялянскай моладзі. Яго 15 членаў на чале са старшынёй Янінай Зязюляй прычыніліся да таго, што заняткі ў двухгадовай школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі адбываліся рэгулярна, наведвала іх 20 асоб, у тым ліку нават і старэйшыя гаспадары. Цяпер Я. Зязюля сама вядзе заняткі па асветна-палітычнаму курсу. А летам гурток арганізаваў дзяцінец, у жніво, а потым калі капалі бульбу. У жніво ў дзяцінцы было 15 дзяцей, а ўвосень — 17. Нядаўна гурток правёў „белую нядзелю", у часе якой былі розныя гульні на снезе, а пры нагодзе моладзь ачысціла ад снегу вясковую вуліцу. Цяпер жа збіраюцца наладзіць кулік у суседні гурток. Шмат часу адводзяць заняткам у самадзейным мастацкім гуртку.



*Што новага ў „Ніве"?*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

— І ўсё ідзе так гладка? — пытаюся.

— А дзе ж там! Хацелі мы летам абсталяваць „зялёную святліцу", каб было дзе пагуляць на свежым паветры. Нават надзел дошак у гміне дасталі. Але нашыя хлопцы згнаілі справу — ніяк не сабраліся прывезці дошкі. Або з гэтай самай „школай здароўя". Ахвотных наведваць яе ў нас паўвёскі — і старыя і маладыя. Дагаварыліся мы ў гміне ў Сідры. Усё было ладна ды складна, але вось трэці месяц не з'явіўся да нас ані разу лекар, які меў весці заняткі. Мы і ездзілі і прасілі, ды нічога не памагло — няма нашай школкі...

Мясцовы гурток ЛЗС узначальвае Станіслаў Булах. Іх спецыяльнасць — футбол. Хлопцы бегаюць, як алені. На пяць сустрэч з суседнімі камандамі ў мінулым сезоне выйгралі чатыры. Нават местачкоўцам з Янава і то далі з вынікам 4:3. У гуртку 23 члены. Трэніруюцца абы-дзе, але рэгулярна. Выдаюць у клубе насценную газету „Рэха стадыёнаў".

— І што далей? — выпытваю ў спартсменаў.

— А нічога. Не маем дзе трэніравацца. Дагэтуль таўкліся на школьнай пляцоўцы — цесна, невыгодна, перашкаджаем школе. А больш нідзе вольнага пляцу няма. Калі б дырэктар школы Крыстына Мальчык дазволіла абсталяваць пляцоўку на школьным палетку, мы б свае працы не пашкадавалі і мелі б сапраўдны вясковы стадыён!..

Старэйшыя прыкідваюць, што з дарогай у тутэйшых ваколіцах дрэнна. Каля 200 гаспадарак з вёсак Снічаны, Літвінкі, Ціманы, Залессе, Юрашы, Агароднікі злучае са светам палявы выбоісты гасцінец, па якім увосень ды ўвесну ні прайсці, ні праехаць. А ў зборную школу дзеці ездзяць цягніком у Саколку. Некаторыя з іх да станцыі ў Рацаве маюць па 8 кіламетраў! Ніякага падвозу дагэтуль не наладзілі. Бяда. Былі спробы будаваць дарогу ў грамадскім чыне, але такі вялікі адрэзак — гэта проста не пад сілу самім сялянам. Гміна спрабавала таксама нешта дапамагчы, але сродкаў хапіла ўсяго толькі на некалькі дзесяткаў метраў ды пару мосцікаў. Павет пакуль што з дапамогай не спяшаецца, а чаму?

Самадзейны мастацкі калектыў паўстаў у Снічанах нядаўна па ініцыятыве кіраўніка клуба Ірэны Ярмошка. У ім 14 асоб, 6 жанчын і 8 мужчын. Ужо падрыхтавалі тры праграмы: „Раз па-народнаму", „Малацьба" і „Сялянскае вяселле". Аснову ўсіх іх складаюць мясцовыя народныя польскія і беларускія прыпеўкі, песні, жарты, абрады. Рабілі ўсё самі, бо інструктару трапіць у Снічаны не так лёгка. Выступалі ў Сідры, Карыціне, Залессі, Шудзялаве, Старой Каменцы, Крукоўшчыне, Сачкаўцах. І заўсёды з поспехам. На павятовым аглядзе ў Саколцы ў чэрвені мінулага года здабылі дыплом, рэчавыя ўзнагароды і экскурсію па аўгустоўскіх азёрах.

— А што цяпер? — пытаюся ў Ірэны Ярмошка.

За карнавал падрыхтуем новую праграму, таксама рэгіянальную, народную. Але працуецца нам цяжкавата. Усе хацелі б нас убачыць ды пачуць, але каб дапамагчы ў чым-небудзь... Праўда, гміна ў Сідры і аддзел культуры Павятовага ўпраўлення ў Саколцы дапамаглі набыць матэрыял на касцюмы. Пашылі іх самі дзяўчаты. Дапамагае крыху і прэзас сідраўскага ГС-у Станіслаў Кузьміцкі, пачынае нас бачыць таксама начальнік Сідраўскай гміны Мар'ян Грабаля. Але гэта — кропля ў моры нашых патрэб! Нядаўна рушыла каля нас фабрыка бетонных вырабаў Беластоцкага будаўнічага прадпрыемства лёгкай прамысловасці. Мае прыгожую тэатральную залу. Вось калі б яна заўважыла наш калектыў і прыгалубіла!

**Мікалай Гайдук**

## БГКТ ХРОНІКА

■ 22 студзеня ў Бельску адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення аддзела супольна з арганізацыйным камітэтам песеннага конкурсу БГКТ. Былі абмеркаваны справы, звязаныя з узнагародамі для пераможцаў.

■ У апошні час у Беластоцкім павеце адбыліся два справаздачна-выбарныя сходы гурткоў БГКТ — у Ялоўцы і Залуках. Між іншым, былі выбраны там новыя старшыні гурткоў: у Ялоўцы — Яўгенія Сцярэжка, у Залуках — Ірэна Грэсь.

■ 25 студзеня на сходзе гуртка БГКТ у Грыбоўшчыне выбраны новы старшыня — Марыя Чамель.

■ 26 студзеня ў Гданьску адкрыты сход праўлення аддзела з удзелам многіх членаў БГКТ меў наступны парадак дня: 1) даклад Эдварда Шафаловіча на тэму „Эпоха Адраджэння на Беларусі", 2) выступленне старшыні ГП Мікалая Самоціка аб напрамках дзейнасці ў 1974 годзе, 3) прыняццё плана працы аддзела на 1974 год, 4) інфармацыя аб тым, што прэзідэнт горада Гданьска прыслаў падзяку праўленню аддзела за грамадскі чын членаў БГКТ, якія працавалі пры аднаўленні заапарка, 5) танцавальная вечарына.

■ У варшаўскім аддзеле БГКТ 26.I. Аляксандр Баршчэўскі выступіў з дакладам з нагоды 55-ай гадавіны БССР.

■ Харавы калектыў у Бельску „Васілёчкі" 26 студзеня арганізаваў цікавую вечарыну.

■ 27 студзеня на Сакольшчыне ў Нетупе і Ласінянах на справаздачных сходах абмяркоўвалася праца гурткоў і былі прыняты планы працы на гэты год. Гурткі БГКТ узначальваюць цяпер Казімір Станкевіч і настаўнік Кірыл Авечка.

■ У песенным конкурсе БГКТ у Бельску 27 студзеня прыняло ўдзел 39 чалавек. Сярод выканаўцаў фальклорных песень у катэгорыі дуэтаў першае месца занялі дзяўчаты — Вера Брэнька і Надзя Назарук з Грэдалёў. Спявалі яны песні „Згадай ты, дзяўчына" і „Гуля, гуля, сівыя гусі". У катэгорыі вакальных калектываў першае месца было прызнана жанчынам з Тапчыкал, а другое — васьміасабовай групе з Дубяжына.

З выканаўцаў сучаснай песні сярод салістаў найлепшымі былі Аляксандр Раманюк з Дубяжына і Аляксандр Кубаеўскі з Орлі. Ім журы прызнала два першыя месцы. Першае месца сярод дуэтаў занялі Ірэна Паўлючук і Ліда Максімюк з Плёсак, а другое месца — Мікалай Лапух і Яўгень Балло з Орлі. Сярод вакальных калектываў першае месца здабылі дзяўчаты з Плёсак, другое месца — васьміасабовы калектыў з Орлі. Арганізатарамі конкурсу былі ГП БГКТ, бельскі аддзел БГКТ, ПЗГС, павятовае праўленне ЗСМВ і аддзел асветы і культуры праўлення ПРН. (мх)




Ад 1 студзеня 1974 года абавязвае закон аб добраўпарадкаванні лясоў, якія не з'яўляюцца ўласнасцю дзяржавы.

Гаспадарка лесам павінна быць так наладжана, каб лес запэўніў прадукцыю і адпавядаў патрэбам аховы здароўя і культуры. Уласнік лесу абавязаны аднаўляць лес згодна з прадпісаннямі надляснічага. Надляснічы мае права выдаць загады адносна догляду лесу, аховы яго перад шкоднікамі, можа загадаць ліквідаваць непатрэбныя дарогі. Дрэвы ў лесе могуць высявацца толькі з дазволу надляснічага. Перагон і выпас быдла ў лесе забаронены. Нельга таксама грабсці падсцілку ў лесе.

Лес нельга дзяліць нават тады, калі дапушчальны падзел гаспадаркі. Гэта значыць, што калі ў склад гаспадаркі ўваходзіць лес, пры падзеле гаспадаркі лес павінен быць надзелены толькі аднаму з удзельнікаў, або двум з іх ці некалькім на супольную ўласнасць. Гэта не адносіцца да тых выпадкаў, калі лес знаходзіцца на некалькіх асобных дзялянках. Кожная з гэтых дзялянак можа быць надзелена іншаму з удзельнікаў.

Уласнікі лесу абавязаны ўплачваць разам з пазямельным падаткам спецыяльную сплату, прызначаную на патрэбы, звязаныя з добраўпарадкаваннем лесу.

Землі, непрыгодныя для апрацоўкі, і няўжыткі павінны быць засаджаны лесам. Рашэнні адносна засаджэння лесам выдае начальнік гміны, а спосаб і тэрмін устанаўлівае надляснічы.

Замена лесу на іншую форму апрацоўкі зямлі дапускаецца толькі з дазволу начальніка павету. На замену ўпраўных зямель на лес неабходны дазвол начальніка гміны.

Калі ўласнік зямлі не выконваў загады ўлад адносна добраўпарадкавання лесу, ператварыў лес у поле, або поле ў лес без згоды ўлад, лес або зямля, на якой рос лес, можа быць па прапанове надляснічага экспрапрыіраваны за рэкампенсатай, зменшанай напалавіну ў параўнанні з выпадкамі, калі дзяржава забірае на грамадскія патрэбы нерухомую маёмасць.

З мэтай добраўпарадкавання лясоў могуць быць створаны лясныя суполкі. Яны ўзнікаюць на аснове рашэння большасці ўласнікаў лясоў — адной або некалькіх вёсак. Суполка рэгіструецца ў начальніка гміны. Члены суполкі захоўваюць права да індывідуальнага ўжывання свайго лесу, які ўваходзіць у склад суполкі.

Суполкі і ўласнікі лясоў, якія правільна гаспадараць лесам, карыстаюцца з дапамогі дзяржавы пры добраўпарадкаванні лясоў і лясных зямель. Уласнікі зямель, на якіх павінен быць пасаджаны лес, атрымоўваюць бясплатна саджанцы.

За нішчэнне дрэў ва ўласным лесе або за высяканне дрэў без дазволу надляснічага паграджае кара да 5.000 зл. грашовага штрафу, а драўніна падлягае канфіскацыі.

# ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ







*Звінела каморанька, звінела —*
*Маладая дзеванька сядзела,*
*Маладая дзеванька сядзела.*
*Маладая дзеванька сядзела,*
*Сваю русу косаньку часала.*
*Сваю русу косаньку часала.*
*Сваю русу косаньку часала —*
*Вялікую думаньку думала.*
*Вялікую думаньку думала.*
*— Ах, мой жа ж ты, ойчаньку,*
*ні аддай,*
*Яшчэ адну зіманьку прахавай.*
*Яшчэ адну зіманьку прахавай.*
*— А як жа ж мне, дочанько,*
*ні аддаць —*
*Наехало госцікаў семдзісят.*
*Наехало госцікаў семдзісят.*
*Наехало госцікаў семдзісят,*
*Папускалі коніkі ў вішнёў сад.*
*Папускалі коніkі ў вішнёў сад.*
*Папускалі коніkі ў вішнёў сад.*
*— Нехай тыя коніkі ні ходзяць;*
*Мае дробнай рутанькі ні бродзяць.*
*Мае дробнай рутанькі ні бродзяць.*

Ад Варонка Анелі, год 75, вёска Снічаны, гміна Сідра, Сакольскага павету, запісаў 27 снежня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# АННА ЛЕСНЯК



Прыемна зайсці ў краму „Эльдом" у Саколцы. Цеснаватая яна, але ўсё тут стаіць, як на выстаўцы. Пра чысціню, належны парадак і добрае забеспячэнне крамы дбае кіраўнічка Анна Лесняк, якая працуе ў гандлі ўжо 19 год.

— Крама „Эльдому" была адкрыта ў Саколцы чатыры гады таму назад, — кажа кіраўнічка. — Але ўжо цяпер гэта адна з тых крамаў, якой ніхто не абмінае. Прадаем пралькі, халадзільнікі, пыласосы, швейныя машыны, электрапечкі, усялякае дробнае абсталяванне для кухні кожнай гаспадыні, таксама запасныя часткі. На працягу года прадаем гэтых тавараў на суму 3,5 мільёна злотых. Зімою ёсць вялікі попыт на розныя агравальнікі памяшканняў. Найбольш на тыя, якія чэрпаюць электраэнергію з акумулятараў.

Анна Лесняк з'яўляецца лепшай прадаўшчыцай у Саколцы. Яна ведае, як найлепш абслужыць кліентаў, намагаецца задаволіць іх усіх. Заўсёды яна ў цесным кантакце з гуртоўняй „Эльдому" ў Беластоку. Калі не хапае таго ці іншага абсталявання ў краме, інфармуе, калі яго сюды прывязуць. Калі сапсуецца менш ці больш складаная прылада хатняга ўжытку, гэта не бяда. Пані Анна адсылае да механіка Яна Янушкевіча, які на месцы адрамантуе яе. У краму прыходзіць усё больш сучаснае абсталяванне. Пані А. Лесняк дэманструе перад наведвальнікамі, як трэба абыходзіцца з ім. Кожнаму пакупніку гэта вельмі дапамагае. Мо таму бывае менш рамонтаў і купленае механізаванае абсталяванне доўга служыць?

Анна Лесняк усю сваю душу аддае нялёгкай працы ў гандлі. І таму ўсе яе любяць і паважаюць, маюць да яе давер.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# ДАКУЛЬ ПАДВОДЗІЦЬ ПАСАЖЫРАЎ?

З немалой і нетоенай радасцю ўсе жыхары Нараўкаўскай гміны Гайнаўскага павету ўспрынялі вестку аб тым, што ад 1 жніўня 1973 года пойдзе аўтобус у Беласток праз Сушчу, Міхалова, Жэдню. Падумаць толькі, замест дабірацца, напрыклад, з Ляўкова ў Гайнаўку ды адтуль у Беласток, дык вы адразу ў Міхалове, а з Міхалова ў Беласток усяго 38 кіламетраў!

Настаў той дзень, калі паявіўся першы аўтобус на гэтай лініі. Але не мінула і месяца, а аўтобусы быццам знатурыліся: раз пойдуць, другі раз не. Потым аб тым, што сюды ездзілі некалі аўтобусы сведчылі толькі аўтобусныя інфармацыйныя дошчачкі на прыпынкавых стаўбах. Спачатку ў Беластоку можна было купіць сабе білет на гэты аўтобус у касе на вакзале ды ў „Орбісе". Праз нейкі час ужо не. Паненкі ў акенках пачалі няўмольна інфармаваць аб тым, што білеты можна купіць у аўтобусе. Добра і гэта. Але паненка яшчэ дадавала: „...калі, вядома, будзе гэты аўтобус". Смутнелі твары пасажыраў, але ўсё ж яны верылі, што гэты няпэўны аўтобус будзе. Потым, бывала, усё часцей не было аўтобуса на лініі Беласток—Жэдня—Гайнаўка, ехалі наўкруг. Бо ехаць трэба ж было.

З гэтымі аўтобусамі было раз лепш, раз горш. Часамі ўдалося даехаць у Ляўкова, Плянту, Нараўку. Аднак не было як вярнуцца назад. Гінулі на лініях недзе аўтобусы з гэтай трасы. Пэўна пачалі ездзіць недзе напрасткі. Пры чым тут назначаная лінія? Напляваць ды й годзе. Дарогі не найлепшыя. Асфальту амаль няма. Дарога з Гайнаўкі ў Нараўку гэта растрэсены, стары, вечна рамантаваны брук. Але ў Нараўку штодзень ездзіць па ёй многа аўтобусаў. Праўда, ёсць аднак такая. У цэлай гміне Нараўка асфальту ўсяго з кілометрдва. І гэта дзіўна неяк здарылася. Зрабілі яго з Нараўкі ў Міклашэва. Жыхары тутэйшыя гавораць, што дарожнаму прадпрыемству трэба было выканаць план. На гвалт. А тут канец года. Таму рабочыя гэтага прадпрыемства ўзялі і паклалі асфальт на гэтым адрэзку. І план выканалі. Але гэта іншая справа.

Даводзілася мне асабіста неаднойчы падарожнічаць аўтобусам на лініі Беласток—Гайнаўка праз Жэдню. Бачыў, як многія іншыя пасажыры, ды і я, дарма чакалі на аўтобусных прыпынках. Дарма трацілі час. Нерваваліся. І думалася, навошта аўтобуснае пасажырскае прадпрыемства падводзіць усіх сваіх даверлівых пасажыраў. Ці няма ўжо на гэта ніякай рады? Збяруся ды напішу ў „Ніву". Напісаў і зайшоў у рэдакцыю. За столікам сустрэў аднаго журналіста. Іншыя журналісты „Нівы" былі ў камандзіроўках. Расказаў я, у чым мая справа.

— Ды вось, — кажу, — хацеў бы назад вяртацца якраз гэтым аўтобусам.

— Пазваніце, калі ласка, — гаворыць рэдактар, — даведайцеся, ці будзе гэты аўтобус.

— 43-00! Слухаю, — чую ў адказ.

— Маю просьбу. Будзьце ветлівы, скажыце мне, ці быў аўтобус у Гайнаўку праз Жэдню ў 9.30?

— Не.

— А ці будзе ў 15.30?

— Невядома.

— Як жа гэта? Вы, таварыш дыжурны, павінны ведаць!

— ?.. (Трэск слухаўкі).

— Ну вось, таварыш рэдактар, — кажу я, — нічога я так і не даведаўся. Хацеў бы толькі дапісаць нашу размову. Хай чытачы яе ведаюць. Паспачуваюць мне і сабе. (Калі будуць ехаць наўкруг праз Гайнаўку). (ця)

## Ці ведаеце што...

*...75 працэнтаў жыхароў СССР мае сярэднюю або вышэйшую адукацыю.*

*...у вышэйшых установах СССР вучыцца цяпер 5 млн. студэнтаў.*

*...адукацыю ў савецкіх вышэйшых установах здабывае 30 тыс. замежных студэнтаў з 135 краін.*

*...найвышэйшы будынак пабудаваны ў ЗША у горадзе Чыкага. Вышыня яго 480 метраў (110 павярхаў).*

*...у Канадзе ёсць 250.000 азёр.*




## Пасля нас хоць трава не расці...

Нямала да сённяшняга дня ёсць людзей, якія думаюць такімі катэгорыямі.

Не паспеў я прачытаць інфармацыю Сакрата Яновіча пра зуброў на Крыншчыне, калі, на табе, даведваюся, што ўжо іх на аднаго менш. Дакладна 27.XII.1973 г. працаўнік надляснііцтва Валілы мгр Выграляк наткнуўся ў лесе каля Новага Вострава на паўшую зубрыцу. Некалькі дзён, казаў, ужо ляжала. Цяля парумесячнае, якое за сабою вадзіла, адбегла ўжо некуды. Гавораць, што за фурманкамі на дарозе цягалася, сена шукаючы.

Шчасцем, цяля, ужо даволі вялікае, само адгадуецца, пэўна. Дык і думаць тут яшчэ па-рознаму можна.

А што сказаць і думаць пра дзве злоўленыя ў пятлю цяжарныя ласіхі? Адну ў 1972 г. — з адным, а другую, у 1973 г. — з двума цялятамі. Абедзве ў ваколіцах вёскі Радунін. Чыіх брудных рук гэта справа?

Кажуць, што нават адзін з паляўнічых папаў калісьці ў такую прымацаваную да прыгнутага дрэўца пятлю. На шчасце, гавораць, пятля тая прыхапіла разам і матацыкл, на якім той ехаў, што і выратавала беднага.

А дзе сям'я баброў, якая пару год таму назад пасялілася пад Міхаловам? Зімы нават не перазімавала.

А што сталася з бабрамі, якія не так даўно знайшлі прыстанішча на рэчцы Плоска каля Каралёвага Мосту?

Леснікі і паляўнічыя згодна пацвярджаюць, што хоць пра браканьераў са стрэльбамі не чутно, то аматараў душыць звярыну петлямі дагэтуль хапае.

Для катаў гэты занятак — вешаць! Не падыходзіць яно таму, хто хоча чалавекам звацца.

Якая звярына найчасцей ад браканьераў церпіць? Вядома, зайцы і казулі — лясныя балерыны. Да рысяў ці ваўкоў „вешацелям" не дабрацца. Замяккія ў іх, злыдняў, ляжкі. Свайго ценя баяцца. А ваўкі, між іншым, сустракаюцца. Было 2—3 у надляснііцтве Жэдня. Хадзілі чуткі, што пад Пяшчанікамі авец парэзалі. Аднаго нават застрэлілі ў снежні 1973 г.

Ёсць аднак і сардэчныя, добрыя людзі. Прыжыліся бабры ў ваколіцы вёсак Свіслачаны і Баброўнікі. Падкормліваюць дзеці і дарослыя курапатак, якія па загуменнях спажывы шукаюць, пры самых стадолах зімуюць, забягаюць на панадворкі.

Хоць браканьераў толькі адзінкі, то нахабства ў іх на цэлы полк хапіла б. Народ крыху іх баіцца і маўчыць, ведаючы часта пра іх злачынствы.

Нельга маўчаць!

І не толькі з гэтым змагацца трэба. Колькі тысяч прыгожых дрэўцаў высеклі перад святамі людзі часта адукаваныя, якія саміх сябе да інтэлігенцыі залічаюць!

Высеклі без разбору, не шануючы лесу. І гэта тады, калі добрую ялінку са спецыяльных плантацый ці селекцыі лесу за пару злотых усюды купіць можна.

А скажы такому, што гэта звычайная пакража, то ён яшчэ чаго добрага абурыцца гатовы. Ён жа ж не ўпёр у чужую кішэнь бруднае лапы. А ялінка — што там? Іх жа многа. Ён і сам нават любіць з сям'ёю выехаць за горад — паплюхацца ў рэчцы, на дрэвы, кусты паўглядацца.

Не разумее, што гэтак лес і прыроду шануючы, ягоныя ўнукі толькі на свой пуп голы, пэўна, углядацца змогуць, на беражку якога смярдзючага канала прысеўшы, звяроў і птушак толькі з кніжак і старых фільмаў ведаць будуць.

Таму ганіце такіх, не шкадуйце. Бараніце таго, што ваша і нашчадкаў вашых!

А калі ў знойны летні дзянёчак прыляжаце недзе ў цяньку, твар у духмяную траву ўнурыўшы, зайграе вам ветрык на вольхаў, бярозак цымбалах, пройдзецца скрыпкай па сасонак радзе, да дзівоснай дрэмы закалыша. Шэрымі зайцамі сны набягуць, панясуць дзесь удалеч алені, дзесь далёка ў будучы дзень. Там, дзе сонца заўсёды, дзе напэўна лепей, у краіну супольных імкненняў. Каб зірнуць хоць разок, сваю працу пазнаць, каб з палёгкай уздыхнуць — што ты жыў не дарма.

**Ларс**

## Этнаграфічнае акенца



Паўднёвы Востраў Сакольскага павету. Фота М. Хмялеўскага.




### ЯК ПЕРАСАДЖВАЦЬ ВАЗОНЫ

Няўхільна набліжаецца вясна, а, як вядома, вясна гэта найлепшая пара для перасадкі вазонаў. Расліны, якія паходзяць з так званых цёплых краёў, перасаджваюць наогул ужо ў лютым. Іншыя ж, якія паходзяць з „умеранага" клімату, перасаджваюць найчасцей у канцы сакавіка.

Як часта трэба перасаджваць хатнія расліны? Расліны маладыя, што хутка развіваюцца, трэба перасаджваць штогод, старэйшыя расліны — радзей. Расліны вялікія, якія растуць у вялікіх дайнічках, трэба перасаджваць праз кожныя некалькі год.

Найпрасцей было б праверыць, ці расліну неабходна ўжо перасаджваць, выняўшы з дайнічкі расліну з зямлёю. Правяраем, ці ў зямлі знаходзіцца многа белых карэньчыкаў. Калі іх не замнога, то з перасадкай можна пачакаць.

Перасаджваем вазоны наступным спосабам, паказаным на рысунках a, в, c, даючых вобраз паасобных фаз перасадкі.

a) Вымаем расліну, паварочваючы дайнічку дагары дном. Выняўшы карэнную брылу разам з зямлёй, пальцамі ці тупой палачкай выкрушваем старую зямлю. Робім гэта вельмі далікатна, каб не пашкодзіць карэнняў.

в) Дайнічка, у якую перасаджваем расліну, павінна быць, зразумела, большая ад папярэдняй. Найлягчэй было б акрэсліць яе памеры, правяраючы, ці старая дайнічка змяшчаецца ў новай. На дно новай дайнічкі ўкладаем гліняныя чарапкі, тонкі пласт пяску і абсыпаем свежай зямлёй.

c) На падрыхтаваную так падкладку кладзем карэнную брылу расліны, абсыпаючы яе па баках зямлёй. Каб зямля запоўніла месца між карэннямі, трэба яе лёгка прыціснуць пальцамі.

Перасаджваць неабходна хутка, каб не высушыць карэнняў. Адразу ж паліць расліну, але не занадта многа.

**Гаспадыня**










## Дзіўныя дзівы



## Ці можна „бачыць рукамі"?

Факт здавалася б неверагодны, а ўсё ж гэта праўда, хаця навука яшчэ бездапаможная і не ўмее растлумачыць таямнічыя з'явы псіхікі, якія на працягу стагоддзяў залічаліся да чараў ці цудаў. Пярэчылі яны і чалавечаму розуму і правам прыроды.

Дзяўчынка „бачыць рукамі". Хустка шчыльна засланяе яе вочы. Аб нейкіх „штучках" няма мовы. Дактары на белай паперы друкаванымі, але не вельмі вялікімі літарамі пішуць нейкае слова. Паперу накрываюць шклом. Дзяўчынка кладзе далонь на шкло і, водзячы па ім пальцамі, беспамылкова чытае напісанае слова.

Але гэта яшчэ не ўсё. Пад шкло кладуць розныя геаметрычныя фігуры, выразаныя з каляровай паперы. Дзяўчынка „бачыць рукамі" не толькі форму кожнай фігуры, але і яе колер.

Як гэта адбываецца, што можна „бачыць рукамі", навука яшчэ не высветліла. Аднак людзі, маючыя гэткую здольнасць, сцвярджаюць, што чорнабелы друк яны чытаюць, адчуваючы выпукласць літар, а колеры пазнаюць па розніцы тэмпературы.

Гэту дзіўную з'яву, якую называюць дэрмааптычнай, вучоныя вырашылі выкарыстаць не для сенсацыі, а для высакароднай мэты — для дапамогі сляпым людзям.

У СССР праводзяцца шматлікія навуковыя доследы, якія выявілі, што дэрмааптычная здольнасць характэрна амаль 70 працэнтам дзяцей! Гэтую здольнасць можна лёгка развіваць, сістэматычна практыкуючы дзіця. Больш таго, дзеці, з якімі праводзілася сістэматычная трэніроўка, набылі здольнасць тэлепатыі.

Польскія вучоныя вырашылі выкарыстаць вынікі гэтых доследаў на практыцы, вучачы „бачыць рукамі" сляпых дзяцей са школы ў Лясках. Пасля шостай лекцыі некалькігадовы сляпы хлапец, які дагэтуль толькі чуў, што існуюць на свеце розныя колеры, водзячы пальцам па каляровай паперы, усклікнуў: „Ах, дык я ўжо цяпер ведаю, што абазначае колер!". Упершыню ў жыцці ён „убачыў", зразумеў, што гэта такое. А гэта ж дзіця пазней яшчэ зможа самастойна прачытаць напісаны даволі вялікімі літарамі тэкст!..

А вось і яшчэ адзін вопыт. Маладая дзяўчына з шчыльна завязанымі вачыма знаходзіцца ў цёмным пакоі. У гэтым жа пакоі знаходзіцца яшчэ некалькі асоб. Адзін другога яны не бачаць. Дзяўчына бачыць кожнага з іх. Дакладней кажучы, яна бачыць светлыя контуры іх постацяў і яркае святло іх вачэй. Яна гаворыць: „Бачу плячо, нос, галаву", — і ў той жа момант хапаецца за гэту частку цела. Для яе людскія постаці знаходзяцца як бы ў „арэоле".

Вядомы савецкі фізік Сямён Кірлян, фатаграфіруючы спецыяльным спосабам людзей, прадметы і звяроў, сцвердзіў, што ўсе людзі (і іншыя жывыя арганізмы) высылаюць характэрнае выпраменьванне, структура якога, колер і празрыстасць змяняюцца ў залежнасці ад стану здароўя і псіхікі. Сямён Кірлян сфатаграфаваў „арэол" апаратам, які ён сам сканструяваў. Ёсць аднак людзі, якія самі бачаць гэту светлую абводку.

У Маскве жыве 50-гадовая Нэля Міхайлава, якая дзякуючы сіле сваёй волі, псіхічнай канцэнтрацыі перасоўвае на адлегласць розныя дробныя прадметы, напрыклад, пачку запалак, кубачак, талерачку і г.д.

Хаця нам здаецца, што апісаныя вышэй з'явы сустракаюцца надзвычай рэдка, вучоныя сцвярджаюць, што тэлепатыя, дэрмааптычная з'ява, ці псіхакінез (перасоўванне прадметаў на адлегласць) у рознай ступені характэрны кожнаму з нас. У многіх краінах свету вучоныя дакладна даследуюць такіх людзей, шукаючы нязнанай чалавеку энергіі, якая выклікае гэтыя з'явы. (апр. А. Ч.)




### Елачка

Маленькая, вясёлая —
Яна яшчэ дзіця,
Смяялася да стройнае,
Што мамай ёй была.

І так і не заўважыла,
Калі прыйшла зіма,
І не пачула бедная —
Расстацца ім пара.

З вёскі прыйшлі людзі
Шукаць дрэўка на свята,
Забралі нашу ёлачку,
Каб строіць ёю хату.

Заныла сэрца маці,
Не ўбачыць больш дачушкі,
Не ўбачыць сваёй мілай,
Маленькай весялушкі.

Калі і вы ў лес ідзеце,
Каб ёлку выбіраць,
Дык помніце заўсёды —
Яна ўмее сумаваць.

**Аліна Швед,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

### Маскоўская сяброўка

*Мая сяброўка ў*
*Маскве*
*далёкай жыве*
*яна мне пісьмы*
*цікавыя*
*шле*
*Наташа ў пісьмах*
*прысылае запах*
*Масквы*
*і каляровыя свае*
*сны*
*яна мне піша*
*што ў школе*
*экзамены хутка*
*апошні баль*
*прыслала здымак*
*даўно я знала*
*якая яна*
*Наташа піша*
*я пішу*
*наша сяброўства*
*столькі год*
*Наташа любіць*
*я люблю*
*кніжак чытаных*
*начны сакрэт*
*Наташа музыку*
*кахае*
*і я з раскошай*
*слухаю яе*
*Наташа чуеш*
*Шапен Бетховен*
*мая сяброўка*
*мяне запрашала*
*я пісьмаў следам*
*у Маскву да Наташы*
*паеду*
*вельмі добра было б*
*каб так як*
*з Наташай мы*
*сябравалі ўсе*
*народы*
*як члены*
*Вялікай Сям'і.*

*Ірэна Баравік*




Снапкоў і Дзегцяроў неслі службу на кантрольна-прапускным пункце на шашы. Сонца толькі што ўзышло і асвяціла шэры брук магістралі, паласатую жардзіну шлагбаўма, фанерную будку на абочыне, апушаныя шэранню дрэвы.

Снапкоў — мужчына год пяцідзесяці, крыху грузнаваты, з пакатымі дужымі плячыма і вялікімі рукамі, сядзеў на перакуленай патроннай скрынцы, жмурыўся на сонцы і курыў цыгарку.

Дзегцяроў, паблісквaючы на сонцы шкельцамі акуляраў, цокаў падкоўкамі перад шлагбаўмам — ад абочыны да абочыны. На грудзях у яго вісеў аўтамат, а ў руках быў чырвоны сцяжок для спынення машын.

Па абочыне шашы амаль бегма набліжаўся адзінокі падарожнік. Часам ён прыпыняўся і боязна азіраўся па баках. Ужо добра бачыў яго і Дзегцяроў.

— Не падабаецца мне гэты хлопец, — сказаў Снапкоў, падняўшыся са скрынкі і падыходзячы да шлагбаўма. — Я праверу дакументы, а ты адыйдзі ў бок, каб было зручней, калі што...

Дзегцяроў сунуў сцяжок у кішэню і адышоў да абочыны, паклаўшы рукі на аўтамат.

Падарожнік быў вайсковец. На ім коратка сядзеў старэнькі салдацкі шынель з пагонамі сержанта. Пілотка збіта на патыліцу, боты да паловы халяў былі выпэцканы балотнай граззю. Сержант, набліжаючыся, цяжка дыхаў і пазіраў па чарзе то на Снапкова, то на Дзегцярова— напэўна, вызначаючы, хто тут старшы.

Снапкоў прыклаў руку да пілоткі:

— Нарад войск НКУС, прашу прад'явіць дакументы.

Сержант паспешліва працягнуў салдацкую кніжку.

— „Захараў Кузьма Захаравіч, 1921 года нараджэння..." — прачытаў уголас Снапкоў.

— Ліпа ўсё гэта, — горача загаварыў сержант, — не трацце часу, хлопцы. Карпенка — маё сапраўднае прозвішча. Два дні назад мяне з парашутам скінулі фрыцы. Заданне ў мяне — масты ўзрываць, правады рэзаць...

Дзегцяроў міжвольна сарваў з грудзей аўтамат, а сержант спалохана падняў угору рукі.

— Чакай, — спыніў свайго напарніка Снапкоў. І — да сержанта: — Гавары ўсё па парадку, апусці рукі.

— Ды што гаварыць. З пакаяннем іду. Не магу супраць сваіх. Нас траіх скінулі. Астатнія тут недзе. Я іх згубіў, а калі праўду сказаць, і не шукаў. Мы павінны былі сустрэцца ля хутара Тры рэчкі, але я не пайшоў туды.

— Зброя ёсць?

Сержант палез рукой у кішэню.

— Чакай, я сам, — спыніў яго Снапкоў.

З кішэні шыняля выцягнуў парабелум.

— Звані на заставу, Дзегцяроў!

— Ёсць!

Дзегцяроў кінуўся ў фанерную будку, дзе стаяла каробка палявога тэлефона, шалёна пачаў круціць ручку.

— Зараз прыдзе начальнік! — крыкнуў ён праз хвіліну з будкі.

— Ну што ж, Захараў-Карпенка, — сказаў Снапкоў, — садзіся пакуры, адпачні.

Сержант стомлена апусціўся на скрынку, зняў пілотку. Бялявыя валасы былі мокрыя ад поту і дыміліся парай. Ён курыў, тупа ўставіўшыся некуды вачыма.

Снапкоў і Дзегцяроў стаялі і пазіралі на яго. Што ён за чалавек? Ці сапраўды той, за каго сябе выдае, ці гэта якаянебудзь камбінацыя нямецкай разведкі? Але калі ён сказаў праўду, то аб чым цяпер думае?

Хоць з затрыманымі размаўляць не дазвалялася, Дзегцяроў не вытрымаў і спытаў:

— Як жа гэта вы так, га?

— Што? — ачомаўся сержант.

— Як у дыверсанты трапілі, пытаю?

— А-а. Ды так вось... У сорак першым пад Беластокам у палон трапіў. Потым лагер, баланда, сабакі. Дайшоў, як кажуць, да ручкі, ужо ледзь дыхаў.

— Ды як жа вы змаглі? — усклікнуў Дзегцяроў.

Сержант горка ўсміхнуўся. Гэты хлопец усяго на гады тры маладзейшы за яго, але які ж ён наіўны і яшчэ не чапаны жыццём! Вось такім жа захопленым сысунком быў і ён у недалёкім сорак першым.

— Так усё зможаш, — сказаў сержант панура. — Гестапавец мне проста сказаў: альбо будзеш працаваць з імі, альбо заўтра ж у крэматорый. Вам не даводзілася бачыць, што гэта за штука? Не?

На шашы загрукаталі колы застаўскай таччанкі. Запрэжаная параю вогненна-рыжых коней, яна хвацка падляцела да шлагбаўма. Глебаў саскочыў на хаду. Сержант падхапіўся і стаў па стойцы „смірна".

— Дакументы? — адрывіста спытаў капітан.

З венгерскага гумару

## АСНОВА ДЛЯ СКРОМНАСЦІ

Цётка Марыя, удава Вінце Карняка, карысталася ўсеагульнай любасцю на прадпрыемстве. Усе заўсёды віталіся з ёю, усміхаліся, хоць яна не была ні дырэктарам, ні загадчыкам аддзела кадраў. Была яна самай звычайнай прыбіральшчыцай, але справу сваю рабіла дасканала і з усімі была мілая і ветлівая.

— Як жывяце, цётачка Марыя? — спытаў яе аднойчы сакратар дырэктара таварыш Калцаі.

Цётачка Марыя адказала, што жыве добра, усім задаволена, што за тыя 20 год, якія працуе тут, ні на што не можа паскардзіцца!

— Вы ўжо 20 год працуеце ў нас?

— Праз тыдзень споўніцца роўна дваццаць! — сказала цётка Марыя.

Таварыш Калцаі быў вельмі ўзрушаны яе словамі і ў той жа дзень паведаміў аб размове з ёй дырэктару. Той, у сваю чаргу, расчуліўся і сказаў:

— Вось нагода, каб узнагародзіць нашу цётку Марыю. Гм... Скажыце бухгалтару, каб знайшоў неабходныя сродкі. Наладзім салідны банкецік у канферэнц-зале, ну і гэтак далей!..

Усім службоўцам вельмі спадабалася ідэя дырэктара, аднак цётачцы Марыі да пары да часу вырашылі нічога не гаварыць, каб усё было для яе сюрпрызам. Але, як і ўсюды, знайшлася сярод машыністак адна балбатушка і паведаміла навасць будучай гераіні свята. Цётачка Марыя пачырванела і неадкладна накіравалася ў кабінет дырэктара.

— Прашу вас, таварыш дырэктар, не рабіце гэтага! — звярнулася яна да яго. — Умаляю! Я на гэты банкет, ей-богу, не прыду!..

— Ну-ну, цётачка Марыя, і скромнасць павінна мець межы! — пераконваў яе дырэктар.

Але цётачка Марыя настойвала на сваім. Тады дырэктар нават прыкрыкнуў на яе:

— Ну што вы за цвёрдалобая бабулька! Мы ж хочам вам дабра. Што тут такога? Ну, збярэмся на пасяджэнне. Ну, вып'ем за ваша здароўе. Ну, закусім... А потым моладзь патанцуе за ваша здароўе...

Тут цётка Марыя заплакала і спыніла дырэктара:

— Вось таму я і не хачу банкета! Бо ўсю гразь, усе акуркі пасля і бутэлькі, усё давядзецца ўбіраць мне самой!..

**Адар'ян Штэла**

# НІЎКА

Дырэктар-кавалерыст.

### ВЫГАДНЫ ШЛЮБ

У Галівудзе размаўляюць два сцэнарысты:

— Я чуў, што твой апошні шлюб вельмі выгадны...

— Так. Мінулае маёй жонкі — багаты матэрыял для сцэнарыяў.

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ*

— Вось дык сустрэча! Ты адкуль?

— З суседняга трампліна.

ГУМАР З

### У СУДЗЕ

Адвакат у сваёй прамове гаворыць аб падабаронным:

— Перад вамі — высакародны, выхаваны, сумленны, цвярозы чалавек...

Абвінавачаны з абурэннем спыняе яго і звяртаецца да суддзі:

— Гэта проста нядобра, ваша чэсць. Я наймаў яго, каб ён бараніў мяне, а ён увесь час гаворыць аб кімсьці іншым.

### ЗНАХОДКА

Прыяцель — прыяцелю:

— Нарэшце я знайшоў падручнік па твісту.

— Няўжо? Як называецца?

— „Олівер Твіст".

### НЕ ПОЙДЗЕ

— Ведаеш, мама, я не пайду замуж за Пецю.

— Чаму?

— Бо ён не хоча мяне браць.

МІНІВЕРШЫ

### ГРЭБЛІВЫ КЛІЕНТ

Валоссе, бы капа на галаве,
Тырчаць вусы, бы ячны колас,
Сеў есці, ды як зараве:
— Адкуль у супе волас?!

**Іван Бычанкоў**

### БАРАБАН І БАЛАЛАЙКА

Барабан кпіў з Балалайкі,
Называў яе гультайкай.
Адказала Балалайка:
— Сам працуеш ты з-пад палкі.

**Васіль Лаўрыновіч**

МІНІБАЙКІ

### ХТО-КАГО...

Шлі неяк заяц і чарапаха, абое галодныя, і бачаць — воддаль сядзіць воўк, даволі ўкормлены. Чарапаха і гаворыць:

— Давай так: хто хутчэй да гэтага ваўка дабяжыць, той яго і з'есць...

Заяц дабег першым. Паспяшыш — людзей насмяшыш!

...Ён хацеў узяць сваё, ды не ведаў дзе.

...Ён працаваў з агеньком — спальваў за сабою ўсе масты.

*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

Па просьбе Зінаіды Марозавай, Ірэны Якацюк, Яўгеніі Вішанка і Галены Паўлючук змяшчаем песню з рэпертуару „Парціты"

## DWA RAZY DWA

słowa: **Jerzy Kleyny**
muzyka: **Antoni Kopff**

Gdzie ten świat uproszczony,
Świat co ma cztery strony,
Białe dni, czarne noce —
Z zielonych lat...
Świat najprostszy pod słońcem,
słońcem,
słońcem...
Gdzie ten pierwszy, prosty świat...?
Bo kto się zna, zna na świecie?
Kto na nim się dobrze zna?
Kto pewien jest ile będzie
Dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy dwa!?
Tu dzień za dniem jak premiery,
Nie zawsze wiesz co się gra...
Nie zawsze już bywa cztery —
Dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy dwa!

Któż wiedział, że samo życie
Rozwiązań tak wiele da —
Że jak na złość nam nie wyjdzie
Dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy dwa...

A jednak to ludzie cenią,
To nawet swój urok ma,
Że w życiu nie jak w mnożeniu —
Dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy dwa...
Dziś śmieszy nas, tylko śmieszy,
Ktoś co to się niby zna —
A chciałby świat tak wymierzyć:
Dwa razy dwa, dwa razy dwa, dwa razy dwa!

— *Даражэнькая, а ці выключыла ты прас?*
— *Не турбуйся. Я яго з сабою ўзяла.*

— *Няўжо такую вялікую рыбу злавілі? — Дзе там, да крыгі прымёрз...*

*Кубіст.*

### У АЎТАШКОЛЕ

— Скажыце, курсант Петручук, ці ёсць, а калі ёсць, дык якая перавага аўтамабіля-самазвала над бартавым?

— Ё-о-о-сць... Ёсць, яшчэ і вялікая! Самазвалам толькі: Р-раз! Джык! М-мах! — і змыўся. А бартавым — пакуль нагру-у-узяць, разгру-у-узяць, дык і міліцыя цябе сцапае.

### НАДЗЕЯ П'ЯНІЦЫ

Адзін прыхільнік Бахуса пайшоў да лекара, каб пракансультавацца па прычыне вострых прыступаў рэўматызму. Лекар прыпісаў яму спіртныя кампрэсы на грудзі і на спіну.

— Доктар, — з надзеяй прашаптаў п'яніца, — а ці не будзе той жа вынік, калі спірт пройдзе ўсярэдзіне паміж спіною і грудзьмі?

### ВАРТАЎНІКІ

Сядзяць два вартаўнікі ў будцы, а злодзей пад акном мяшок нясе. Вось адзін і кажа другому:

— Сымон, схадзі паглядзі, што ён прынёс у мяшку.

— Збегай лепш сам, а то ў мяне валёнкі мокрыя.

— А ў мяне патроны сырыя, — адказаў Сымон.

— Ну, тады ранiцай даведаемся, — згадзіўся другі і падсунуўся бліжэй да печкі.

### У ВЕНГРЫІ

— Не пазычыш мне фарынт на трамвай?

— На жаль, у мяне толькі дваццатка.

— Давай, давядзецца паехаць на таксі.

# Курёзы

### АВЕЧЫ „ЧЭМПІЯНАТ"

У Англіі адбыўся своеасаблівы авечы „чэмпіянат" па прыжках у вышыню. Ён быў арганізаваны будаўнічай кампаніяй, якая займаецца пракладкай аўтастрады паміж Лонданам і Эдынбургам. Паколькі многія ўчасткі будучай шашы перасякаюць раёны буйной пашы, узнікла неабходнасць ахоўваць дарожнае палатно ад нашэсця чатырохногіх гасцей. Праведзены „чэмпіянат" даў магчымасць вызначыць максімальную вышыню агародж, якія ставяць уздоўж аўтастрады. Пры гэтым будзе ўлічаны рэкорд, што ўстаноўлен самым „рэзультатыўным" з бараноў.

### НОС СХАВАЎ, ХВОСТ ЗАВЯЗ

У сувязі з ростам злачыннасці ў Стакгольме шведскія ўлады перавялі з правінцыі ў сталіцу 200 паліцэйскіх. У выніку за апошні час колькасць крымінальных спраў у горадзе зменшылася на адну дзесятую.

Аднак неўзабаве шведская прэса забіла трывогу: за гэты час злачыннасць у правінцыі ўзрасла роўна на 10 працэнтаў.

### СЛАБАНЕРВОВЫЯ ДАНТЫСТЫ

На з'ездзе зубных урачоў, якi нядаўна праходзіў у ЗША, быў праведзены цікавы эксперымент. Пасля абследавання ў 95 працэнтаў прысутных у зале стан зубоў аказаўся далёка не бліскучым. Растлумачваючы прычыны гэтага, некаторыя дантысты прызналіся, што, назіраючы, якія пакуты даводзіцца пераносіць ад іх рук пацыентам, яны самі пачалі панічна баяцца бормашыны.

Сміх з намі

*Калі вам сорамна глядзець людзям у вочы — не глядзіце.*